Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 20 8-14 верасня 1995 года ЦАНА 500 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

**5 ПРАГРАМ тэлебачання— 3-я старонка**

## Хто прымаў роды ў непаўналетняй?

***Факт глумлення над уласным здароўем і сваім дзіцём 16-гадовай дзяўчыны галоўны ўрач маладзечанскага раддома А. Лавіт расцэньвае як дробязь, якая не заслугоўвае ўвагі газеты.***

**Каментарый рэдакцыі.**

І сапраўды, адказ Аляксандра Лавіта на просьбу нашага карэспандэнта пракаменціраваць здарэнне, аб якім шмат дзе гавораць у Маладзечне, быў нечаканым. Ён увогуле спачатку адмовіўся што-небудзь сказаць з прычыны ўзнікшых у нас пытанняў, матывуючы тым, што тут ёсць свае "нюансы", якія не дазваляюць яму, трэба меркаваць, нават успамінаць пра гэта.

— Уся інфармацыя ў пракуратуры, будзе праведзена судмедэкспертыза і толькі потым я змагу нешта сказаць,— зазначыў Аляксандр Леанідавіч.

Аднак нашу версію справы ( а факты мы атрымалі з дасведчаных медыцынскіх крыніц) ён не абвергнуў, але і пацвердзіць таксама не захацеў і выразіў сумненне наконт значнасці здарэння і мэтазгоднасці публікавання ў газеце.

А справа вось у чым. Нядаўна ноччу па 03 звярнуліся з просьбай аказаць медыцынскую дапамогу непаўналетняй дзяўчыне. Медык, які агледзеў хворую, вымушаны быў звярнуцца да паслуг гінеколага. Той зрабіў заключэнне: у яе ... адбыліся роды. Крыху пазней дзяўчына ўсё ж прызнала гэты факт. У цэлафанавым пакеціку хутка быў дастаўлены і нованароджаны, праўда, не жывы...

Мы пакуль не задаваліся мэтай турбаваць пракуратуру, каб даведацца аб усіх падрабязнасцях справы, раздзьмуўшы, што называецца, з яе сенсацыю. Але хвалюе іншае: якім чынам цяжарная аказалася па-за ўвагай медыкаў? Хто, урэшце-рэшт, прымаў у яе роды? Ці была яна ўвогуле на ўліку ў жаночай кансультацыі?

Вось на такія пытанні і думалі атрымаць адказы ад галоўнага ўрача раддома. А за адным разам і выслухаць яго асабістыя адносіны да гэтага факта як спецыяліста, чалавека. На жаль, не атрымалася. А можа, ён і сапраўды нічога не ведае? Што ж, прабачце, Аляксандр Леанідавіч, калі звярнуліся не па адрасе. Будзем і мы разам з вамі чакаць інфармацыі праваахоўных органаў.

## Маладзечна – Залессе – Фларэнцыя

***Калі меркаваць аб тым, што пасол любой дзяржавы ў іншай пастаянна трымае пэўную справаздачу аб сваёй дзейнасці, то ў адзін з апошніх летніх дзён у Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Італьянскай Рэспублікі ў Беларусі сіньёра Джана Лукі Берцінета павінен быў з'явіцца запіс: наведаў разам з аташэ па пытаннях культуры Асвальда Леуці Маладзечна, Смаргонь, Залессе.***

А аб'яднаў гэтыя беларускія мясціны з італьянскай зацікаўленасцю. Міхал Клеафас Агінскі. У Маладзечне яго імя носіць музычнае вучылішча - адно з самых вялікіх і вядомых у Беларусі , Смаргоншчына мае шмат мясцін, звязаных з жыццём гэтага славутага грамадскага, палітычнага дзеяча, кампазітара. І вось цяпер вырашаецца пытанне аб тым, што ў знакамітай італьянскай Фларэнцыі (дзе знайшоў свой апошні прытулак М. Агінскі), на доме, у якім ён жыў, будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка, аўтар якой – вядомы беларускі дойлід Валерый Янушкевіч.

Дублікат жа гэтай дошкі мяркуецца вырабіць для маладзечанскага музвучылішча. Такім чынам, пасол і аташэ і рыхтавалі для гэтых падзей пэўнае абгрунтаванне.

Аднак у час паездкі, якой у значнай меры спрыяў былі міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка, пры гутарках з дырэктарам вучылішча, заслужаным работнікам культуры Рыгорам Сарокам, старшынёй Смаргонскага райвыканкома Ільём Ракам і іншымі размова ішла аб важнасці і неабходнасці развіцця, пашырэння не толькі культурных, але і эканамічных сувязей, адносін краін, аб духоўнай блізкасці італьянскага і беларускага народаў.

Як прызналі італьянскія госці, гэтыя сустрэчы яшчэ раз пераканалі іх у гасціннасці, шчырасці беларусаў, у гатоўнасці да сумеснай узаемна-карыснай работы.

***Валянцін ЛІПНІЦКІ.***

## Будуць грошы - будзе і цяпло. Астраўчанам застаецца толькі чакаць і спадзявацца

***Скончылася лета, а з ім і лагодныя спякотлівыя дні. Усё часцей мы задумваемся аб надыходзячых халадах. Якая тэмпература будзе ў нашых кватэрах зімой? У астраўчан адказ на гэтае пытанне самым цесным чынам звязана з уводам у строй новай кацельні на прыродным газе, бо старая ўжо не ў стане спаўна забяспечыць цяплом увесь пасёлак. Ён жа апошнім часам моцна разросся.***

Новую кацельню, як і ўсё зараз, будуюць доўга і цяжка. Калі ж нарэшце магутныя катлы дадуць пару? Галоўны заказчык – вытворчае аб'яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі ў асобе свайго дырэктара С. І. Пятроўскага стрымана і не вельмі ўпэўнена абяцае: першы пускавы комплекс аб'екта будзе здадзены ў эксплуатацыю да сярэдзіны верасня. Зразумела, пры ўмове, што 300 мільёнаў рублёў, якія неабходна яшчэ на ім асвоіць, паступяць у тэрмін (усяго на аб'екце сёлета прадстаіць асвоіць 1,5 мільярда рублёў. Зноў жа, калі яны будуць).

Зараз аддзелачнікі галоўнага падрадчыка – МПМК-158 – вядуць аддзелку ўнутраных памяшканняў. Спецыялісты "Мінскпрамтэхналадкі", "Мантажаўтаматыкі", "Лідгазспецбуда", ашмянскага ўчастка ПМК-70 даводзяць да ладу абсталяванне – газавае, энергетычнае, водаправоднае, каналізацыйнае, кантрольна-вымяральныя прыборы і аўтаматыку.

Усё рыхтуецца да пуску. Ужо прыняты камісіяй лівнёвая і фекальныя каналізацыі, водаправод, хутка будзе падрыхтавана да работы электраэнергетычная сістэма. І будаўнікам, і заказчыкам, і жыхарам пасёлка нічога не застаецца, як спадзявацца, што патрэбныя фінансавыя сродкі ўсё ж знойдуцца і першая чарга кацельні нарэшце пачне працаваць.

***Т. СЁМІНА.***

## "Масквіч" згарэў ушчэнт.

### Гаспадар дастаўлены ў бальніцу

***Работа, якую рабіў у сваім гаражы віляйчанін М., лічыцца вогненебяспечнай. Вулканізацыю колавай гумы неабходна рабіць удалечыні ад лёгказгаральных прадметаў. М. гэтае правіла праігнараваў, за што і паплаціўся.***

Полымя шуганула нечакана, ахапіўшы дзвярны праём. Аўтааматар спрабаваў выратаваць свой "Масквіч", але дарэмна.

"Рожкі ды ножкі" засталіся ад аўтамабіля, агнём пашкоджаны і тры суседнія гаражы. Сам гаспадар з апёкамі змешчаны ў бальніцу.

***Алесь НОВАШ***

**Вось так і жывём.**

## З настаўніц у... барменшы

***Маладзечанскі раён. Сустрэў днямі знаёмага дырэктара сельскай школы. А той у размове вазьмі і пакрыўдзіся:***

– Ведаеш, мы пачынаем адчуваць дэфіцыт настаўніцкіх кадраў. Хутка не будзе каму і дзяцей вучыць. Бягуць, хто куды. Ды якраз не самыя горшыя. Працавала вось у мяне ў школе выдатная дзяўчына – выкладчык хіміі і біялогіі. Цудоўна ведае свой прадмет, умее данесці яго да дзяцей. Мы на гэты навучальны год нават праграмы свае пераглядзелі, хацелі зрабіць школу з хіміка-біялагічным ухілам. Вялікія спадзяванні на яе ўскладалі. А яна перад пачаткам навучальнага года мне на стол заяву "па ўласнаму жаданню". Кажу: "Дачушка, ты ж мяне без нажа рэжаш. І куды гэта ты сабралася?" А яна мне адказвае: "Ведаеце, Іван Іванавіч, я вас вельмі паважаю, але ў школе я больш працаваць не буду. Мяркуйце самі: тут я атрымліваю каля сарака долараў у месяц, а ў бары, куды мяне запрашаюць, буду мець да дваццаці долараў за вечар". Падпісаў. А на яе месца давялося пенсіянерку запрасіць. Вось так: з настаўніц у барменшы.

***Андрэй КАЛЯДА***

## Узнагарода маладзечанскім мэбельшчыкам

***Народнае аб'яднанне "Маладзечнамэбля" вылучана на ўзнагароду "Факел Бірмінгама" — за паспяховае эканамічнае выжыванне і развіццё ва ўмовах сацыяльна-эканамічнага крызісу.***

У пісьме на імя генеральнага дырэктара аб'яднання Валерыя Бушылы за подпісам выканаўчага дырэктара камітэта па ўзнагароджаннях Патрыцыі І. Пік гаворыцца: "Пасля папярэдняй працэдуры адбору ваша кампанія прадстаўлена да аўтарытэтнай міжнароднай узнагароды "Факел Бірмінгама". Вылучэнне вас на ўзнагароду прадастаўляе магчымасць уключэння ў міжнародную сетку (net work) удзельнікаў праграмы "Паслы амерыканскага народа " і Інстытута міжнародных фінансаў і эканамаічнага партнёрства. Акрамя таго, вам прадастаўляецца права ўступлення ў Міжнародную Акадэмію лідэраў бізнесу і адміністрацыі. Акадэмія будзе выконваць ролю звязваючага звяна паміж вамі і ўдзельнікамі нашых праграм - лідэрамі бізнесу, гарадскімі арганізацыямі, дзелавымі клубамі, прафесійнымі асацыяцыямі ў розных краінах свету".

Даведка рэдакцыі. Назва ўзнагароды звязана з горадам Бірмінгамам, размешчаным на поўдні ЗША. У гады вялікай дэпрэсіі горад змог выйсці з тупіка і сам адрадзіцца.

*Аддзел інфармацыі.*

## Дапамог "Фантамаш"

***Цяпер, у перыяд цяжкага эканамічнага становішча, большасць прамысловых прадпрыемстваў ледзь зводзіць канцы з канцамі. У выніку, як выключная падзея стала ўспрымацца і расшырэнне вытворчай плошчы, адкрыццё новага цэха. І тым не менш, менавіта такі факт упісаны нядаўна ў біяграфію Валожынскага льнозавода.***

За кароткі тэрмін вытворчыя карпусы гэтага прадпрыемства пацясніў вялізны ангар. Неўзабаве яго аснасцілі ўнікальным абсталяваннем, якое паставіла льноперапрацоўшчыкам фірма "Фантамаш" з украінскага горада Сарпы. Завадчане пачалі выпуск кастрапліты. Падобных цэхаў, як сцвярджаюць дасведчаныя людзі, толькі некалькі ў Беларусі. Спектр прымянення "навінкі" вытворчасці даволі шырокі. Гэтая прадукцыя можа служыць незаменным матэрыялам пры будаўніцтве дачных домікаў. Структура кастрапліты дазваляе ёй выступаць і ў якасці выдатнага цеплазберагальніка. Выкарыстоўваецца яна і на іншыя мэты.

Будаўніцтва цэха, яго ўвод у эксплуатацыю — гэта як чарговы крок у прадпрымальнай, падзвіжніцкай дзейнасці дырэктара льнозавода Георгія Часлававіча Арцюшкевіча. Бо першы крок быў зроблены, калі тут рызыкнулі наладзіць выпуск мяккай мэблі. Цяпер тэхналагічны ланцужок набыў большую трываласць -- на выраб заводскай мэблі стала выкарыстоўвацца ўласная высакаякасная кастрапліта. Цяпер завадчане задаволена кажуць: "Мы ж нездарма звязаліся з "Фантамашам"! Фірмай, назва якой у разгорнутай расшыфроўцы гучыць як "фантастычныя машыны".

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

## ЯК ТРОЦКІЯ БЯРОЗКАМІ СТАЛІ

***У Гарадзілаўскім сельскім Савеце Маладзечанскага раёна ёсць невялічкая вёска, пераважная большасць жыхароў якой носяць прозвішча Троцкі. Не дзіўна, што і сама вёска даўней мела такую назву.***

Было клопату ў некаторых вяскоўцаў са сваім прозвішчам. Былы франтавік Уладзімір Іванавіч Троцкі расказваў, як у арміі яго выклікалі ў асобы аддзел, каб высветліць, ці мае ён сваяцкія сувязі з апальным палітычным дзеячам. Аднаго гэтага ў той час было дастаткова, каб змяніць сваё прозвішча на якога-небудзь Іванова ці Сяргеева, ды не, не адцураўся ад яго, атрыманага ў спадчыну ад дзядоў і прадзедаў, Уладзімір Іванавіч, як і многія іншыя яго аднавяскоўцы.

А вось з назвай іх вёскі атрымалася такая гісторыя. Мабыць, моцна яна рэзала вуха тагачаснаму начальству. І калі ў 60-я гады па раёне пракацілася хваля перайменаванняў населеных пунктаў (Кабылкі тады сталі Зоранькай, Цялядкі - Падлеснай, Ваўкі - Загор'ем), Троцкія ператварыліся ў Бярозкі. З тае пары вёска мае дзве назвы: для ўсяго наваколля - старую, родную і блізкую. І новую, афіцыйную і невыразную, з якой больш чым за тры дзесяцігоддзі мясцовы люд так і не звыкся. Можа, час рэабілітаваць Троцкія?

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

## Упершыню першыя.

***Валожын. У Еўрапейскі год аховы прыроды, які адзначаецца сёлета, Мінская абласная інспекцыя па экалогіі падвяла вынікі абласнога конкурсу. За лепшае асвятленне прыродаахоўнай тэматыкі першае месца і грашовая прэмія ў памеры 3 мільёны рублёў прысуджана Валожынскай раённай газеце "Працоўная слава".***

На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў раз у месяц выходзіць тэматычная старонка "Куток прыроды", друкуюцца матэрыялы розных жанраў па ахове навакольнага асяроддзя. Неаднаразова газета займала прызавыя месцы ў абласным конкурсе, а вось першае – упершыню.

Дарэчы, другое месца па выніках конкурсу прысуджана Вішнеўскаму лясніцтву (ляснічы – П. Балдоўскі). Трэцяе – грамадскім інспектарам А. Селівону і В. Шакуну, за фотаздымкі ў райгазеце – Б. Сачанку.

Цяпер журналісты газеты актыўна ўключыліся ў абласныя конкурсы "Зямля і людзі" на лепшае асвятленне дзейнасці аграпрамысловых прадпрыемстваў і фермерскіх гаспадарак і "Гісторыя стварэння і дзейнасці Мінскай абласной міліцыі".

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Культурнае жыццё

## Зарабляюць грошы песняй

***Другі год дзейнічае ў Астраўцы музычная студыя "Званочкі", заснаваў якую настаўнік спеваў адной з мясцовых школ А. А. Якіменка. І хоць студыя невялікая, ды і ўмовы працы не зайздросныя, аднак многія ў пасёлку і раёне прывыклі да іх частых выступленняў, якія заўсёды праходзяць пры поўных залах.***

Энтузіязм кіраўніка студыі напрўлены галоўным чынам на тое, каб выявіць таленты ў жанры эстраднай песні, даць магчымасць праявіць сябе, удасканаліць свой прыродны дар. Найбольшая задача студыі – згуртаваць вакол сябе ўсю таленавітую моладзь пасёлка, нават раёна. Але пакуль што займаюцца тут 12 чалавек ад13 да 15 гадоў. Прыхільнікі эстраднай песні з задавальненнем наведваюць студыю ў час канікул, а ў навучальны год – толькі два разы на тыдзень, каб любімая справа не замінала іх галоўнай справе – вучобе.

Апошні свой канцэрт, які адбыўся ў мінулую нядзелю, студыя "Званочкі" дала па платных білетах – законы рынку закранулі і дзяцей, выжыванне іх студыі яны вырашылі ўзяць на свае плечы. Дарэчы, кошт уваходнага білета ненамнога перавышаў кошт порцыі духмянага марожанага і таму ў многіх школьнікаў (яны складалі асноўную колькасць гледачоў) перамагла любоў да песні. Як паведаміў А. А. Якіменка, заробленыя цяжкай, але прыемнай працай грошы на гэты раз пойдуць на зарплату юным салістам, каб яны змаглі адчуць неабходнасць сваёй справы. У далейшым жа зробленыя грошы, як вырашыў калектыў студыі, пойдуць на набыццё новай музычнай апаратуры. Тым больш, што запрашэнні на далейшы канцэрт "Званочкі" ўжо атрымалі ад гаспадарак раёна.

*Г. ФРАНЦКЕВІЧ.*

## ЯК Я ПАЖАРТАВАЎ І ШТО З ГЭТАГА ВЫЙШЛА

Каля майго пад'езда на лаўцы з раніцы да вечара бавяць час бабулі. Пляткараць. Яны даўно абпаласкалі языкамі ўсіх суседзяў, іх дзяцей, усіх катоў і сабак і цяпер пераключыліся на вельмі сур'ёзную тэму -- на палітыку.

Спынілі мяне аднойчы каля пад'езда:

-- Кажуць, Пазняк шпіёна ў гарсавет заслаў... І той лазіць ноччу на дах і вывешвае там фашысцкія сцягі. Дык злавілі таго шпіёна ці не?

-- Не, – адказваю. І пажартаваў. -- Лавілі, лавілі, а ён узяў ды за мяжу збег.

— Куды?

-- У Ізраіль.

-- Мы так і думалі, што Пазняк яўрэй. А, бач, як пад беларуса замаскіраваўся. От жа зльдзень! Хацеў усіх нас яўрэям прадаць, -- прыўзнялася з лаўкі рабаватая ў твары бабуля, былая сібірачка.

-- І калгасы хацеў распусціць! -- усхапілася другая, з кавенькаю ў руцэ, -- а я калгасную пенсію атрымліваю... Калгас мне плаціць.

-- Выходзіць, хацеў пенсію ў цябе адабраць! – выгукнула рабаватая.

-- І адабраў бы, калі б да ўлады дарваўся, -- не на жарт усхадзілася тая, што з кавенькаю. -- От ірад праклятый! І чаму Лукашэнка не пасадзіць гэтага фашыста?

-- Сталіна б на яго!

-- Во, во, Сталіна! ён доўга з ім не чыкаўся б! Не падсылаў бы ў Маладзечна шпіёнаў сцягі вывешваць! Самога павесілі б! За гэтае месца!

Я не вытрымаў і пайшоў у пад'езд. Падымаўся па лесвіцы да сваёй кватэры і думаў: "Божа, у якой краіне жыву?!"

## Маналог у чарзе

– Вельмі ж абводзяць вакол пальца прыватных вадзілаў на нашай станцыі абслугоўвання. Адзін падман на іх! Аднойчы, уяўляеце, прыехаў на гэтую станцыю: у маім "Масквічы" падшыпнік паляцеў. "Прашу вас, – кажу механіку, – трэба замяніць падшыпнік". "Няма", – адказвае. "Зрабіце, даражэнькі, што-небудзь, не магу я ездзіць па горадзе без падшыпніка. Я добра заплачу. Далярамі". І тады ён адказвае: "Так і быць, падумаю, можа, што і знайду". Прыходжу праз дзве гадзіны. Хвалююся, як на прыёме ў зубнога ўрача. "Як, знайшлі?" – пытаюся. "Канешне, – адказвае, – усё зрабіў, як трэба. Будзеце ездзіць і добрым словам мяне згадваць". Я ледзь не абняў яго ад радасці: "Дзе ж вы дасталі яго, даражэнькі?" "Ваш у той машыне, – усміхаецца механік, – а падшыпнік той машыны ў вас". Не, вы ўяўляеце, якое гэта махляртсва! Так: да гэтай пары езджу з чужым падшыпнікам! Адзін жах! Калі гэта скончыцца? Якія трэба мець нервы? Так жыць далей немагчыма!

*Мікола КАПЫЛОВІЧ*

## "Купляем" без грошай

Складана цяпер жывецца гандлярам. Усё часцей яны церпяць ад крадзяжоў. У жніўні зладзейскім нападам падвергліся многія гандлёвыя пункты Маладзечаншчыны.

У горадзе былі абрабаваны агародніны магазін МП "Сузор'е" на Старым Месце, магазіны ТАА "Гранд-ЛТД" па вуліцы 8 Сакавіка, МП "Фарада" па вуліцы Ф. Скарыны, гандлёвага прадпрыемства "Меркурый" і АРЗа чыгункі па Лібава-Роменскай, агародніны магазін па вуліцы Я. Драздовіча, чыгуначны магазін па вуліцы Таміліна, ларок АТ "Маладзечнаграмхарч" на аўтавакзале, прыватны ларок па Лібава-Роменскай.

Практычна тыя ж працэсы ідуць у раёне. Тут пацярпелі сельскія магазіны ў Красным, Насілаве, Драннях, магазін "Птушка" ў Аляхновічах, красненскія сталовая "Вілія" і павільён "Ветрык".

# Сёння на працэнты жывуць не толькі рантье

## Сотні вілейчан чацвёрты год зарабляюць восенню сабе на жыццё «бульбянымі працэнтамі».

Ад жадаючых дапамагчы сельскай гаспадарцы адбою няма. Не тое што ў мінулыя часы. І не толькі жаданне зарабіць «даўгавухіх» штораніцы збірае ля раённа-гарадскога цэнтра занятасці вялікі натоўп людзей. Спакушае больш магчымасць зарабіць «працэнты» — натураплату ў выглядзе адборных клубняў.

Чатыры гады таму цэнтр занятасці паспрабаваў сумясціць інтарэсы беспрацоўных, што былі рады хоць часоваму заробку, і калгасаў, якія шукалі добраахвотных памочнікаў. Тады гаспадаркі ахвотна бралі на дапамогу гараджан, прапануючы ім у якасці матэрыяльнай кампенсацыі за ўдарную працу дзесяць працэнтаў выбранай іх рукамі бульбы. Паколькі ў памочніках была патрэба, на іхнія ўмовы згаджаліся ахвотна, прадастаўлялі ім транспарт, які развозіў «валюту ў мяшках» па дварах, дазвалялі набіраць лепшыя клубні.

За чатыры гады многае змянілася. Гаспадаркі сталі лічыць кожны грош у іх паліняльм бюджэце. А транспартныя расходы на штодзённы прывоз-адвоз гарадскіх памочнікаў сёння ў капейчыну стае. Таму многія гаспадаркі, скараціўшы пасяўныя плошчы пад бульбай, абыходзяцца сваімі сіламі.

Дваццаць два жыхары Вілейкі тры тыдні адпрацавалі на бульбянішчах калгаса «Бальшавік». Цяпер каля 650 беспрацоўных, пенсіянераў і гараджан, што жадаюць зрабіць запасы на зіму, працуюць у прыгарадных гаспадарках.

Штодня сто вілейчан ад'язджаюць на палеткі калгаса «Любань», сто пяцьдзесят працуюць у «Вілейскім» і 250 — у калгасе «XXI з'езд КПСС». Больш за дзесяцітак гараджан забяспечвае работай у сваёй дапаможнай гаспадарцы «Сельгасхімія».

Сёлета цэнтр занятасці забяспечыў такой работай усіх жадаючых. Хаця хваляванняў напачатку было шмат і не ўсім абяцалі даць работу.

Гаспадаркі і іх памочнікі цалкам перайшлі на натуральныя адносіны: за работу атрымліваюць пяць працэнтаў выкапаных клубняў. У канцы ж уборачнага сезона абяцана прэмія, зноў жа, у цэнтнера-клубнях. Пакуль такая дамоўленасць задавальняе абодва бакі.

*Таццяна СЕВЯРЫН.*

